# АПАВЯДАННІ ПРА ЛЕНІНА



## На першамайскім мітынгу

Гэта было 1-га мая 1917 года ў Петраградзе (цяперашнім Ленінградзе). Рабочыя Охценскага парахавога завода з чырвонымі сцягамі пайшлі на дэманстрацыю.

Пасля дэманстрацыі прышла вестка, што будзе наладжан мітынг і на ім выступіць таварыш Ленін.

Усе падаліся да лазні, каля якой звычайна збіраліся рабочыя.

Быстрымі шагамі Ільіч узышоў на трыбуну і пачаў гаварыць.

Я быў тады яшчэ хлопчыкам, але ніколі не забуду яго энергічную фігуру ў цёмным паліто і кепцы. Я ніколі не забуду яго спакойны голас, які павышаўся толькі пры ўпамінанні ненавіснай яму буржуазіі.

Я не памятаю ўсяго, што гаварыў Ільіч, але некаторыя яго думкі засталіся ў памяці.

— Ніводнай уступкі буржуазіі,—гаварыў таварыш Ленін. — Ніколі не ісці з буржуазіяй на згоду. Калі мы пачалі, дык давядзем справу да канца. Наперад і ніводнага шагу назад!

Рабочыя ўважліва слухалі яго, час ад часу перапыняючы воклічамі:

— Правільна!

— Ён кажа праўду!

Рабочыя адразу адчулі, хто іменна клапоціцца пра іх інтарэсы, хто іх правадыр.

**А. Малюгін.**

## Першамайскі суботнік

Першага мая 1920 г. у Крэмлі быў наладжан суботнік па ачыстцы двара. Я з курсантамі таксама вышаў працаваць. Да мяне падыходзіць камендант Крэмля і кажа:

— Таварыш Ленін прышоў прыняць удзел у суботніку.

Я ўбачыў Ільіча. Ён стаяў у паношаным касцюме і паношаных бацінках.

Працаваць трэба было па дваіх, і я разам з Ільічом узяліся насіць доўгія бярвенні. Ён усё стараўся браць бервяно не за тонкі канец, а за тоўсты, я-ж хацеў даць яму лягчэйшы.

— Вам,—кажа ён,—прыходзіцца больш пераносіць цяжараў, чым мне.

— Вам пяцьдзесят год,—адказваю я,— а мне дваццаць восем.

Працаваў Ільіч выдатна. Ён не хадзіў, а бегаў, абмінаў другіх, спяшаўся, нібы паказваючы, якая патрэбна хуткасць у рабоце.

Я прапанаваў быў таварышу Леніну зняцца за работай.

— Што вы?— сказаў ён.—Я прышоў працаваць, а не здымацца.

*Барысаў.*

# Майская песенька



*Верш В. МАЯКОЎСКАГА*

Зялёныя лісцікі—
Няма ужо зімы.
Ідзём
Раздоллем чысценькім
І я,
і ты,
і мы.
Вясна сушыць развесіла
Сваё мыццё.
Мы дружна ўсе і весела
Ідзём,
ідзём,
ідзём!

Ад чырвані палае
Усё кругом.
Мы сцягі Першамая
Нясём,
нясём,
нясём!
Вуліца рада,
Вясной абмытая.
Шагаем атрадам
І мы,
і ты,
і я.








# ДЗЯДУЛЬКА ДЖО

*Апавяданне М. ГЕРШАНЗОНА*

У нашым двары жыве амерыканец. Гэта маленькі сівенькі дзядок, такі маленькі, што мне і то ён будзе толькі да пляча.

А нарадзіўся ён у 1861 годзе—за дзесяць год да Парыжскай комуны. Паспрабуйце, палічыце, колькі яму гадоў!

А па-мойму ён зусім не амерыканец. Калі ён прыехаў сюды з Амерыкі больш дваццаці год таму назад, дык гэта не лічыцца, праўда? І па-руску ён гаворыць вельмі добра, толькі мяне называе „Майк" замест Міхась, ды яшчэ гаворыць „ол райт" замест „ладна" і курыць люльку. І Шурка навучыўся ад яго: чуць што — „ол райт". А называем мы яго дзядулька Джо.

Мы з ім вялікія прыяцелі.

Ён - пенсіянер і, зразумела, нідзе не працуе Калі цёпла, ён цэлымі днямі сядзіць на двары на сонейку, курыць і расказвае нам, як гуляць у каўбояў або індзейцаў. Сам ён адзін па вуліцах хадзіць баіцца: вядома, такога старэнькага і слабага заштурхаюць.

Мы з Шуркам заўсёды праводзім яго, калі ён ідзе на пошту атрымліваць пенсію. А ў гадавіну Парыжскай комуны ён папрасіў нас, каб мы павялі яго на свята ў Дом ветэранаў рэволюцыі.

Пайшлі мы. Уся зала была запоўнена старымі. Чалавек, якому менш пяцідзесяці год, лічыцца там як-бы комсамолец. А ў прэзідыуме за сталом—сапраўдныя парыжскія комунары. Не памятаю, ці пяць, ці шэсць іх было. Адзін, яшчэ зусім здаровы на выгляд дзядок, устаў і пачаў успамінаць— пра стралянину, пра барыкады.

— Мне,—кажа ён,—у тыя часы было пятнаццаць год. Зразумела, матка мяне не пускала на вуліцу, замкнула на ключ. Але я вылез праз акно на гару, а адтуль на страху. Перш-на-перш я пабег шукаць сваю настаўніцу Луізу Мішэль. Я знайшоў яе на барыкадзе. „Нясі хутчэй патроны!“ крыкнула яна мне.

Дзядулька Джо сядзеў у першым радзе, а мы з Шуркам—на самай задняй лаўцы, бо спераду было неяк няёмка.

Вечар скончыўся позна, а калі мы вышлі на вуліцу, ішоў дождж.

— Хутчэй, хутчэй, вось наш трамвай!—крыкнуў Шура.

Але дзядулька Джо хацеў ісці пехатою.

— Дождж вельмі цёплы, май бой (гэта значыць—„мой хлопчык“), мне прыемна хадзіць, успамінаць мінулыя дні,—адказаў дзядулька Джо.

Ён зусім прамок, пакуль мы дайшлі да дому.

— Глядзі, не прастудзіся, дзядулька, табе нядоўга і захварэць,—сказаў я яму на развітанне.

— Нічога, Майк, я дужы стары,—усміхнуўся ён.—Со лонг (гэта значыць—„бывайце“).

На другі дзень мы пабеглі да яго і пастукалі ў дзверы. Стары сядзеў на падлозе каля свайго амерыканскага чамадана і перабіраў нейкія паперы.

Потым ён выцягнуў са дна чамадана карцінку.

— А ну, хлопчыкі, пашукайце на гэтай карцінцы дзядулю Джо.

Карцінка была, напэўна, выразана з якоганебудзь журнала або газеты. Людзі ішлі шарэнгамі ў смешных капялюшах, а спераду стаялі жанчыны ў старадаўніх убраннях і адна з іх падавала мужчыне дзіця.

— Ну, дзе-ж тут вас знойдзеш!—засмяяўся Шурка.—Тут усё здаравенныя дзядзькі! А капялюшы якія! Зірні, Мішка, як чыгунчыкі.

— Не, дзядулька Джо,—сказаў я,—тут няма ніводнага падобнага. Мусіць, гэта вельмі старая карцінка.

— Старая, гэта праўда, Майк,—усміхнуўся дзядулька Джо.—Вось гляньце: тут, першы справа, самы крайні—гэта ваш дзядуля Джо. Гэта было ў тысяча восемсот восемдзесят шостым годзе, першага мая.

— У тысяча восемсот восемдзесят шостым годзе!—усклікнуў Шурка

— Пяцьдзесят год таму назад?

— Так, пяцьдзесят год таму назад, мой хлопчык.

Мы больш уважліва разгледзелі карцінку. Які высокі і дужы быў тады дзядулька Джо! Напэўна, ён проста ўсохся ад старасці.

— А гэта што за дзядзька з дзіцем?

— Гэта мой самы лепшы прыяцель Паркер. Жонка прышла развітацца з ім,—яна баялася, што паліцыя пачне страляць.

— А дзе-ж ён, дзядулька Джо, цяпер?

Стары нічога не адказаў, толькі пацiснуў плячыма. Ён пачаў зноў перабіраць паперы. Але цяпер мы ўжо не спускалі з яго рук вачэй. Яму папаўся кавалачак чырвонага шоўку, на якім былі напісаны літары.

— Гэта значок „Вобблі“,—растлумачыў дзядулька.—Так некалі ў Амерыцы называўся рэвалюцыйны рабочы саюз.

Потым ён выцягнуў яшчэ адну выразку з газеты, пацёртую, жоўтую. На ёй быў



*Дзядулька Джо перабіраў нейкія паперы.*

Дзядулька доўга цёр лоб, успамінаў, потым сказаў:

— Ага, Парсонс, Парсонс... Вось, бачыце, як гэта крыўдна, май бойс (мае хлопчыкі). Поплеч на заводзе стаялі, кавалачкам хлеба дзяліліся, а я забыўся, усё забыў, олд фул! (Олд фул — гэта значыць „стары дурань“; так дзядулька заўсёды лаяў сябе, калі вельмі на сябе ўзлуецца.)

Я хацеў запытацца, за што іх пакаралі смерцю, ды пабаяўся, што дзядулька і гэта забыўся. Але Шурка не ўтрымаўся.

— А за што іх павесілі, дзядулька Джо?

— За бомбу. Толькі гэта няпраўда, хлопчыкі, яны бомбы не кідалі. Яны проста ішлі, як я, як іншыя на дэманстрацыю.

Мы з Парсонсам тады працавалі ў Чыкаго, на заводзе сельскагаспадарчых машын Мак-Кормік. У той час рабочыя пачалі арганізоўваць саюзы па ўсёй Амерыцы. Мы патрабавалі эйт хаур дэй — гэта значыць васьмі гадзін работы

вельмі страшны малюнак: чатыры арыштанты ў халатах стаяць пад шыбеніцай і каля кожнага вісіць пятля.

— Што гэта, дзядулька?

— Вось гэта — Спайс, гэта — Фішэр, а гэта — Энгель, а гэты... як яго звалі?..

ў дзень, а больш — не. Тады парашылі: у першы май тысяча восемсот восемдзесят шостага года — ніхто не працуй у Амерыцы, стачка за эйт хаур дэй. Мы не пайшлі на завод і ў Чыкаго і ў іншых вялікіх гарадах. І гэта быў першы, першы

мітынг. Парсонс сказаў мне: „Джо, заўтра ты прыходзь на мітынг, ты і другія, і столяр, і механік"... Мы прышлі. Паліцыя стала страляць. Я ўзяў вялікі камень,—і кідаў, і кідаў, проста ў палісмэнаў. Мне ранілі руку,—вось...

Дзядулька Джо закасаў рукаў вышэй локця: на высахшай руцэ быў белы шрам, як чарвячок.

— І многіх забілі насмерць. Тады мы наладзілі мітынг на другі дзень у Хеймаркет-сквер, на Сеннай плошчы. Прышло вельмі шмат рабочых, увесь Чыкаго. Паліцыя пайшла наперад. І хтосьці кінуў у іх бомбу. І бомба забіла многа палісмэнаў. Я ведаю: Парсонс не кідаў бомбу, і Фішэр не кідаў бомбу, і Энгель і Спайс таксама не кідалі. Хто-ж кідаў? Магчыма, што здраднік. Так, канешне, здраднік. Яго паслалі боссы[1]) загубіць наш мітынг, наш рабочы саюз...

Дзядулька Джо задумаўся.

— А праз чатыры гады ў тысяча восемсот дзевяностым годзе ўпершыню святкавалі 1-ы май рабочыя ўсяго свету,—сказаў стары.—Разумееш, май бойс, усяго свету, ва ўсіх краінах, дзе ёсць рабочыя. І святкуюць з таго часу кожны год.

Ён абярнуўся да падаконніка, дзе заўсёды ляжала яго люлька.

— Майк, ты не бачыў, куды я палажыў сваю люльку?



*Людзі ішлі шарэнгамі, а спераду стаялі жанчыны.*

Мы з Шуркам так і пакаціліся сосмеху: люлька была ў яго ў левай руцэ.

— Дык вы-ж яе трымаеце!—крыкнулі мы ў адзін голас.

Дзядулька Джо вінавата ўсміхнуўся і стаў набіваць тытуном сваю люльку.

*Скарочаны пераклад з рускай мовы А. ЗІМІЁНКІ.*

[1]) Босс—гаспадар, капіталіст.

# СОСНЫ

Я. КУПАЛА

Сосны выносныя,
Гордыя сосны!
Шмат вы ўжо носіце
Сонечных вёснаў.

Вас, супакойныя,
Вецер калыша,
Думкі ўзнімаеце
Шумам і цішай.

★

Тыя-ж на поўначы—
З вёснаў да вёснаў—
Ў сцюжнай Карэліі
Высяцца сосны.

Тыя-ж на поўдзені,
Над цёплым морам,
Сосны ахуталі
Крымскія горы.

★

Сосны далёкія,
Блізкія сосны!
Сэрцу вы любыя
З вёснаў да вёснаў.

Вас адзінакава
Вецер калыша,
Думкі ўзнімаеце
Шумам і цішай.

Валянцін Ціхановіч



# ЗДАРЭННЕ З ЛАСЁМ

ВАСІЛЬ КАВАЛЬ
Рысункі Г. ЗМУДЗІНСКАГА

Там, дзе цяпер наша поле, яшчэ да вайны быў густы цёмны лес. Вадзілася ў тым лесе многа ўсякай звярыны: і ласі, і мядзведзі, і зайцы...

Аднаго разу паехаў я ў лес па дровы. А ўжо бралася пад вечар. І справа была ўзімку. Толькі я праязджаю каля балота, бачу—капошыцца на лёдзе нейкая жывёліна. Спачатку здалося, што карова нейкая. Падыходжу бліжэй—гляджу, рагаты здаравенны лось. Неяк узбіўся акаянны на лёд і аніяк не можа падняцца, слізка яму.

— Эге,—думаю я.—Вось дзе ты папаўся. Я цябе зараз жывенькага вазьму... Але-ж такую аграмадзіну на руках з балота не вынесеш?!

— Давай я яго пацягну,—вырашыў я.

Узяў я з саней моцную вяроўку. Адзін канец прывязаў ласю за рогі, другі за сані. Сам сеў у сані, падагнаў каня і думаю: „Вось дзе будзе смеху—прывалаку жывога лася дахаты“.

Як толькі ірвануў конь і выцягнуў лася з слізкага лёду на цвёрдую зямлю, мігам здарылася такое, што я і апамятацца не паспеў. Мой лось як ірване, як шугане, як драпане! Як паімчыць акаянны і каня, і мяне з саньмі. Дужы быў лось, як леў. З усёй сілы трымаюся я за сані. Сані ў паветры ляцяць. Ну, думаю: тут мне і капут! Хоць-бы косці цэлыя засталіся! А конь храпе, а лось фыркае, а ў вушах снег і вецер. Толькі чую, адарваўся мой конь з аглоблямі і з хамутом ды нібы вецер панёсся. А я заплюшчыў вочы ды імчуся праз кусты, праз купіны. Цягне мяне лось у лес. І пачуў я раптам, што падаю з саней у нейкую бяздонную яму...

Як я ляцеў, не ведаю, толькі чую, што мне ўжо стала лягчэй, і ляжу я ўжо на адным месцы. І маім пабітым бакам мякка,



розе і здаўся ім воўчым,— толькі я, прызнацца, моцна перапалохаўся. Думаю, закрычы яшчэ раз—дык цэлая чарада ваўкоў і грукне да мяне ў яму—тады і вый з імі павоўчаму. Эх, наклікаў я бяду праз сваю адвагу.

Стаў я ўжо замярзаць. „Загіну, думаю, нізавошта". Пачакаў яшчэ трошкі. „Не вытрымаю, думаю: закрычу ў апошні раз, хай будзе, што будзе".

— Эге-гей!

як на пярыне. Расплюшчыў вочы—цёмна. Дзе-ж гэта я? Падняўся я на ногі—гляджу: трапіў у яму, якую выкапалі паляўнічыя для ваўкоў. „Эх ліха табе,—думаю я.— І трэба-ж мне было звярыну гэтую жывою везці. Аглушыць-бы мне трэба было яго!" Ну, цяпер нічога не зробіш. Добра, што сам жывы астаўся. Цяпер трэба думаць, як выбрацца з ямы...

Паспрабаваў я вылазіць—нічога не выходзіць. Думаю, дай буду гукаць. Можа добры чалавек пачуе... А ўжо цёмная ноч кругом і сняжок цярушыць.

— Эге-гей!—што было сілы закрычаў я.

І раптам чую—завылі ў адказ ваўкі. Вось табе і раз—наклічу на сябе бяду.

Пачакаў трошкі ды зноў закрычаў я ў другі раз—ваўкі таксама адгукнуліся, толькі ўжо бліжэй. Ці то голас мой ахрып на ма-

— Эге-гей!—адгукнуліся мне, толькі ўжо не воўчыя, а чалавечыя галасы.

Тут я з радасці так падскочыў, што ледзве не выскачыў з ямы...

Падышлі людзі, падалі мне ў яму вяроўку, я і вылез.

— На якое ліха залез ты ў гэтую яму?— крычыць на мяне бацька.—Гэта-ж шчасце тваё, што мы падаспелі. Конь прыбег дахаты ўвесь мокры, з хамутом і аглоблямі. Дык я так і падумаў, што бяда нейкая з табою...

— Усё добра, што добра канчаецца,— сказаў я.—Але гэтаму ласю не пашанцуе. Не прывёў жывога, дык прывяду мёртвага. Ён прыкметны, з санямі бегае...

Наогул я ў маладосці быў вельмі ўпарты і смелы.






*Апавяданне А. Пятрова*
*Рысункі В. Ціхановіча*

Стары архар[1] ляжаў на выступе скалы. З свайго наглядальнага паста—на вышыні чатырох тысяч метраў—ён бачыў велічы крутых Гімалайскіх гор і звілістыя даліны, у якіх блішчэлі рэчкі. Далёка ўнізе плавалі кучаравыя воблакі; ад іх па схілах гор паўзлі цені.

Архар вартаваў стада і грэўся на сонцы. Стада размясцілася сярод каменных глыб. Архары наеліся сакавітай травы і адпачывалі—самкі з ягнятамі асобна ад самцоў, а старыя бараны—здалёку, на выступах гор.

Архар пільна ўглядаўся ў горы. Ён бачыў караваны горных быкоў якаў, што з небяспекай для жыцця перабіраліся праз крутыя перавалы, і чароды хатняй жывёлы на горных пасьбішчах. Унізе, па берагах рэчак, былі індускія паселішчы; у іх мітусіліся людзі—чужыя, страшныя, якіх трэба было баяцца больш за ўсё на свеце.

Сонца апускалася за горы. На беразе срабрыстай рэчкі Алакнанды з'явілася група людзей. Наперадзе ішоў „шэкары" (праваднік), за ім двое „белых" у горных касцюмах, а за „белымі"—насільшчыкі з багажом. Людзі гужам расцягнуліся па сцежцы. Хутка яны пераправіліся на левы бераг ракі і спыніліся на месцы. Насільшчыкі склалі ў кучу багаж, паставілі палаткі і распалілі кастры.

Мінула ноч. Раніцой, узышоўшы на свой пост, архар зноў убачыў падарожнікаў. Яны пакінулі бераг і паўзлі, як казяўкі, па схілу гары. Людзі часта спыняліся і адпачывалі. Перад заходам сонца яны дабраліся да пасьбішча і паставілі свае палаткі побач з шалашамі пастухоў.

[1] Архары—асобная парода горных бараноў.



Трывожыцца пакуль што не было чаго. Ці-ж мала вандроўнікаў прабіралася летам праз горы! Але важак прывык не верыць ворагам. Ледзь развіднелася, ён узышоў на выступ скалы і паглядзеў на пасьбішча. Людзі рыхтаваліся ў дарогу. Куды? Уніз ці ўгору?

Падарожнікі сталі ўзбірацца на гару. Архар скалануўся, калі ўбачыў гэта. Ён моцна ўдарыў нагою аб скалу. Стада ўстрывожылася: самкі з ягнятамі адбегліся ўглыб міжгор'я, а самцы падышлі да архара і сталі ўглядацца на людзей. То адзін з іх, то другі трос рагамі, нібы адганяў думку аб небяспецы.

Павольна, але ўпарта людзі заваёўвалі кожны метр пад'ёму. Яны прыстаўлялі да скал лёгкія драбіны і ўсцягвалі на вяроўках багаж. Часамі яны ссякалі дрэвы і перакідалі іх у выглядзе мастоў цераз правалы і бурныя горныя патокі. Здавалася, гэтых людзей не можа спыніць ніякая перашкода. Пад'ёмам кіраваў чорнабароды „шэкары". Гэтага чалавека архар аднойчы бачыў. Канешне, гэта ён прывёў тады паляўнічых у горы, дзе ў той час пасвілася стада. Была вясна і самкі прыносілі ягнят. Гэта перашкаджала стаду манеўрыраваць. Паляўнічыя забілі тады важака і трох старэйшых самцоў, якія адзін за адным бралі на сябе абарону маладняка. Многа самак і ягнят загінула ў расколінах гор. Стада доўга не магло апамятацца ад разгрому.

Вечарам падарожнікі зноў спыніліся. Яны падняліся за дзень на тысячу метраў. Што іх прымушала карабкацца па кручах? Куды яны ішлі? Важак не дакрануўся да травы і ўсю ноч глядзеў на яркія агні кастроў.

Назаўтра людзі адолелі за дзень яшчэ семсот метраў пад'ёму. Цяпер яны знаходзіліся пад скалою, на якой стаяў архар; ён выразна чуў іх галасы і стук тапароў у лесе.

Важак павёў стада на ўсходні схіл гары. Там было менш травы, але подступы былі круцейшыя і валялася шмат абломкаў скал, якія служылі надзейнай заслонай.

Прайшло два дні—два доўгіх дні чакання і трывогі. Архар не саступаў з наглядальнага паста; яго вочы безупынна перабягалі з аднаго горнага выступу на другі. Стада збілася паміж каменнямі і выходзіла на пасьбішча толькі позна ўвечары.

На трэці дзень з'явіліся людзі. Яны вышлі з далёкіх зараснікаў—„шэкары" наперадзе, за ім—„белыя". Праваднік заўважыў архара. Людзі знялі з плеч стрэльбы і, хаваючыся за каменнямі, пачалі падкрадвацца да стада.

Важак люта матнуў галавою. Так і ёсць, гэтыя людзі—паляўнічыя: яны прышлі сюды, каб знішчыць стада. Уцякаць, хутчэй уцякаць, пакуль не позна! Важак скокнуў з скалы і павёў стада на поўнач. Ягняты ледзве перабіраліся праз глыбокія расколіны. Прыходзілася абыходзіць вельмі крутыя схілы. Але важак удала справіўся з задачай.

Уночы вецер прынёс пах дыму. Міма архараў віхрам прамчаліся быстраногія ка-

баргі: асцярожныя жывёлы пачулі небяспеку і ратаваліся на непрыступныя вышыні.

У поўдзень з'явіліся людзі. Архар заўважыў іх у тую хвіліну, калі яны вышлі з-за кустоў. Зноў наперадзе ішоў чорнабароды „шэкары". Гэты чалавек добра ведаў сваю справу; агледзеўшыся, ён павёў „белых" проста да стада.

Важак стаяў нерухома. Яго сэрца разрывалася ад напружання. Зноў уцячы з стадам? Бескарысна! Аднойчы ён пяць разоў мяняў месца, але паляўнічыя ўсё-ж забілі старога барана і самку. О, каб не было ягнят! З імі нельга рабіць даўгіх пераходаў...

Аставаўся адзін выхад: зрабіць спробу адвесці ворагаў у бок. Іншы раз гэты спосаб удаецца. Праўда, важак у большасці выпадкаў гіне, але затое стаду ўдаецца выратавацца.



Архар скокнуў з каменя і вялікімі скачкамі памчаўся па краю правала. Ён не даў сігналу ўцякаць; таму стада толькі праводзіла яго вачыма. Але адразу-ж другі стары баран павёў стада ўніз—у лясістае міжгор'е.

Важак спыніўся на відным месцы, метраў за трыста ад паляўнічых. Яго статная фігура з прыгожымі рагамі яскрава вырысоўвалася на фоне далёкіх снягоў. Паляўнічыя гужам спускаліся з кручы. „Шэкары" ўбачыў архара і паказаў на яго „белым". Пярэдні паляўнічы навёў бінокль і доўга разглядаў барана.

Важак стаяў, як каменная статуя. Кожная жылка ў яго целе дрыжэла ад хвалявання. Ці павернуць да яго паляўнічыя, ці не павернуць? Ад гэтага залежаў ратунак стада.

Яны павярнулі! Павярнулі! „Шэкары" павёў паляўнічых у абход. Дурны! Ён думаў, што архар не ведае паляўнічых хітрыкаў. Няхай паўзуць паміж каменняў—ён паспее ўцячы, калі гэта будзе патрэбна.

Архар ведаў прыёмы паляўнічых, але не ведаў, як далёка страляюць новыя стрэльбы. Як пчолка, праспявала міма яго галавы куля. Другая куля ўдарылася аб скалу, пад нагамі, і з жаласлівым звонам паляцела ў бяздонне.

Архар адбегся на поўкілометра далей. Ён стаў асцярожным. Ён зноў падняўся на кручу і пільна сачыў. Паляўнічыя падзяліліся: „белыя" пайшлі лугамі, а праваднік апусціўся ў міжгор'е. Архар больш баяўся „шэкары". Гэта быў спрактыкаваны паляўнічы: ён так умеў карыстацца схованкамі, што часамі яго не відаць было зусім.

„Белы" прыклаў стрэльбу да пляча. Пара! Архар кінуўся наўцёкі, але ў той-жа момант у паветры прасвістала куля...

*(Канец будзе).*



# КУ-КУ

ВЕРШ А. БАРТО
РЫСУНКІ А. КАНЕЎСКАГА

Дзесятая гадзіна—
Канчаецца урок...
На самы перапынак
У клас прышоў Змітрок.

— Праз каго-ж гэта такога
Ты спазніўся так намнога?
— Мы ў трамваі ехалі,
сабачку пераехалі.
А ён ад страху бледны
ўсё брэша, брэша, бедны!
І ўсе навокал бледныя
наўзрыд рыдаюць, бедныя!
А я рукой умелаю
бяру іголку, шыю,
і прышываю смела я
сабачку хвост і шыю.
Сабачка ажывае,
ды зразу з-пад трамвая
мне хвосцікам віляе:
„Ну, дзякуй—я жывая!“

Ён раскажа
сто гісторый,
знойдзе вам
пяцьсот прычын:
— Я, па-першае,
быў хворы;
па-другое,
зуб лячыў;
а па-трэцяе,—
ні слова
не хлушу я, ані-ні:
у мяне захован ў роце
апарацік для хлусні!
Не хлусіць
я сам-бы рад,
але хлусіць
апарат!

Як-жа Змітру
адвучаць?
Налажыць на рот
пячаць?
Ці замкнуць яго
замком?
Не! „ку-ку!"
крычаць гуртом.
Як пачне ён
нам ілгаць,—
Мы „ку-ку"
яму крычаць...

— Было ў трамваі цесна.
я-ж трусіка вязу...
Я сам сяджу наверсе,
а ён сядзіць ўнізу.
Ехалі мы, ехалі,
охалі мы, эхалі,
але ўсё-ж прыехалі
я і дваццаць трусікаў...
— Як? Колькі?

— Я і дваццаць трусікаў!
Яшчэ каля плошчы
Свярдлова
ён адзін быў,
чэснае слова!
А як даехалі
да вакзала,
іх куды болей стала!
Зірнуў я пад лаўку—
грызуць сабе траўку...
А траўкі багата-багата!
І ўсе з хвастамі на баку...
Закрычалі
Тут рэбяты:
— Ой, ку-ку,
ку-ку!

Я не мог
зрабіць і кроку:
ў рэчцы
вудзіў я сароку!
Памагаў я рыбаку...
— Ой, ку-ку,
ку-ку!

— У мяне жыве
жырафа.
Я кармлю жырафу
з шафы.
Ліжа мне
яна руку...
— Ой, ку-ку,
ку-ку!

— Я паплыў цераз раку
і ўтануў...
— Ку-ку,
ку-ку!

— Ну, праспаў я
на баку!
— Ах, вось гэта
не ку-ку!

*Пераклад А. ЗІМІЁНКІ.*



# ПРА ВАВЁРАЧКУ І КОШКУ

*Апавяданне П. ЛЕВАНОВІЧА*
*Рысункі І. ДАВІДОВІЧА*

Аднойчы Толяў бацька прынёс з лесу маленькую вавёрачку. Толя, убачыўшы пушыстага звярка, аж заскакаў ад радасці. Ён узяў вавёрачку на рукі і пачаў асцярожна разглядаць яе.

— Паглядзіце, якая-ж яна прыгожая... А роцік які! І вусікі, як у ката...

Не выпускаючы звярка з рук, ён наліў у спадак малака і паставіў на ўслон. Вавёрка чыхнула, абмачыўшы губы, і адскочыла ўбок. Толя зноў злавіў яе і падсунуў спадак з малаком. Але вавёрачка ўпіралася, не хацела есці.

— Не бярэ... што-ж рабіць?—задумаўся Толя.

У гэты момант прышоў Міколка. Толя расказаў таварышу пра сваю бяду. Той выслухаў і параіў:

— Ведаеш што, у нас ёсць кошка з кацянятамі. Давай занясём вавёрачку да іх.

— А калі кошка задушыць?

— Не задушыць. Мы самі будзем стаяць пры ёй.



Толя згадзіўся. Ён узяў вавёрачку, прытуліў яе да грудзей і моўчкі пайшоў за Міколкам. У хаце Міколка дастаў з-пад ложка старое рэшата з кацянятамі. Толя палажыў туды вавёрачку, а Міколка прынёс кошку. Кошка абнюхала маленькіх дзетак, замяўкала і лягла ў лубку. Да яе сосак пацягнулася трое сляпых кацянят. Пачуўшы пах малака, да кошкі пацягнулася сваёй мордачкою і вавёрка.

— Глядзі, глядзі, як яна ссе,—цікаваў Міколка.

— Ціха ты, не палохай!—ласкава гаварыў Толя.

Кошка паглядзела на хлапцоў, а потым павярнула галаву і аблізала вавёрачку.

— Ну, цяпер будзе жыць,—радаваўся Толя.

Праз тыдзень вавёрачка вылучалася сярод кацянят сваёю жвавасцю і непаседлівасцю. Яна выходзіла з лубка, і, калі быў у хаце сабака, дражнілася з ім. Толя часта прыносіў ёй малако, наведваў сваю вавёрачку.

Аднаго разу, калі Толя і Міколка былі на двары, у хаце голасна замяўкала кошка. Хлопцы ўбеглі ў хату. На падлозе сядзела ўстрывожаная кошка і клікала вавёрачку. Трое кацянят тоненька пішчэлі і туліліся адно да аднаго.

— Гэта-ж яна вавёрачку кліча,—усклікнулі ў адзін голас хлопцы.

— А куды-ж яна падзелася?—занепакоіўся Толя.

Кошка мяўкала, скрэбла кіпцюрамі па падлозе, абнюхвала кожную рэч, але не знаходзіла вавёрачкі. Ёй дапамагалі шукаць і хлопцы.

— Ну, куды-ж яна падзелася?—ледзь не плакаў Толя. Нарэшце Міколка ўбачыў на акне кавалак шэрсці.

— Бач, гэта-ж яна праз шыбу вылезла!— ускрыкнуў Міколка.

Вавёрачка ніколі не была на двары, і таму трывога ў хлапцоў узрастала. Але ў гэты час кошка кінулася да акна, радасна замяўкаўшы. Праз шыбу лезла назад вавёрка.

— Ах ты, рыжая, напалохала толькі нас,— падбег да яе Толя.

— Дзе-ж ты была?—запытаў Міколка і хацеў узяць звярка ў рукі. Вавёрка скокнула з падаконніка і пабегла да кацянят.

Потым вавёрка ўсё часцей пачала выбягаць на двор, але гэта хлопцаў ужо не трывожыла. Яны прызвычаіліся, што вавёрка заўсёды варочалася назад.

Аднаго разу падвечар, калі вавёрка варочалася з пагулянкі, ля хаты яе акружылі тры сабакі.

Вавёрка ўскочыла на высокі кол і стала дражніцца з сабакамі. Сабакі бегалі каля плоту, але дастаць вавёрачку не маглі. Асмялелы звярок, бачачы, што сабакі не змогуць дастаць яго, выгнуў цела дугою і скокнуў з плоту на страху. Струхлелая салома абламалася і вавёрачка паляцела на зямлю. Злосныя сабакі ўмомант накінуліся на яе. Вавёрачка прарэзліва закрычала...

На вавёрчын крык маланкай выскачыла кошка. Яна расправіла вострыя кіпцюры і ўскочыла на першага трапіўшага ёй сабаку. Сабака заскуголіў, закруціўся ад болю, а астатнія што сілы пабеглі прэч. Кошка



рвала кіпцюрамі сабаку спіну. На гэты лямант прыбеглі людзі з суседніх двароў і абаранілі сабаку. Вырваўшыся з кацiных лап, сабака памчаўся без аглядкі па вуліцы.

Пра смерць вавёркі Міколка з Толем даведаліся вечарам. Яны вельмі шкадавалі любімага звярка.

## СОВЕЦКІЯ ПІЛОТЫ

*А. КРОТ*

Мы, совецкія пілоты,
Стройна рэем угары...
Што нам страшныя грымоты,
Бліскавіцы ці вятры?!

Нашы лёгкія машыны
Шчэ не зналі перашкод.
Яны славу для краіны
Прыбаўляюць з года ў год.

Нашы моцныя маторы
Роўнамерна чахкацяць
І праз стэпы і праз горы,
Будзь упэўнен, праляцяць.

Мы, совецкія пілоты,
Смела кружым угары...
Што нам страшныя грымоты,
Бліскавіцы ці вятры?!




# Сто буханак хлеба

З ШВЕДСКІХ ЛЕГЕНД

*Уладзімір КУЗЬМІЧ* *Рысункі А. ВОЛКАВА*

I.

Калі вясна зазваніла ў свае зялёныя званы і рэхам адгукнулася ў далёкіх гарах Скандынавіі,—з невядомых краін прышоў ён. Яго звалі Свэнам,—ніхто не пытаў яго пра мінулае, ніхто не цікавіўся ім. Свэн меў толькі рукі ды разумную галаву, і ў той-жа дзень узяўся за лом і рыдлёўку.

У скалістых гарах, на схіле, ён прыдбаў невялічкі кавалак зямлі. Ён павыкідаў валуны, ускапаў рыдлёўкаю сваё поле. Адпачыўшы за ноч, ён устаў раненька і, калі сонца зноў паднялося над краінаю, заскародзіў сваю невялічкую ніву. Суседзі з сваіх кавалачкаў зямлі прыветна глядзелі на Свэна і віталі яго. Свэн таксама вітаў іх і ўсміхаўся першы раз за тыя два дні.


— *Дай дзесяць буханак!*

Скончыўшы работу, Свэн пайшоў да кулака—свайго суседа. Кулак пазычыў яму збожжа, і Свэн засеяў поле жытам.

Жыта вырасла высокае, і Свэн з заміласаваннем слухаў, як шапацелі каласы.

Нарэшце прышла пара збіраць ураджай, і Свэн з любоўю сабраў яго.

Ён хутка змалаціў сваё жыта, мельнік змалоў яго, і суседка-бяднячка спякла працавітаму Свэну сто буханак хлеба.

II.

Радасны і вясёлы быў Свэн. Сто пахучых буханак хлеба ляжалі на паліцах у хаце. Свэн прыжмурыў вочы і ўпершыню марыў пра зімовыя завірухі, калі ён выедзе на лыжах у горы паляваць на звера.

Не паспеў ён адрэзаць першую скібку з першай буханкі, як перад ім з'явіўся сусед-кулак.

— Любы дружа! Ты прышоў да нас з голымі рукамі і я дапамог табе, бо быў упэўнен, што ты вельмі чэсны чалавек! Звычайна я не клапаціўся аб даўгах, але люблю чэснасць.

— Колькі-ж даць, па-вашаму?—запытаў Свэн.

— Ды... дай дзесяць буханак!

Свэн даў яму дзесяць буханак і быў рад, што разлічыўся з даўгамі.

Не прайшло і пяці хвілін, як скрыпнулі дзверы і ў хату ўвайшоў поп,—лёкай бога і свайго чэрава.

— Мір хаце гэтай!

Свэн устаў і пакланіўся яму.

— Міласэрдны бог дае ўсе благі, мой сын. Маімі малітвамі ды праз ласку божую вырасла тваё жыта. Не будзь, о Свэне, прагным і дай царкве нашай дзесятую частку твайго ўраджаю! Ты будзеш мець на тым свеце вялікае шчасце, бо хто дае, таму дапаможа бог.

Бедны Свэн засумаваў, але не асмеліўся адмовіць, і поп пайшоў ад яго з дзесяцьма смачнымі пульхнымі буханкамі.

Слава пра сто свэнавых буханак пранеслася па акрузе. Поп сустрэў вокта-жандара і расказаў яму, як чалавек блакітнай Поўначы шануе нябесную ўладу.

Абражаны гэтым, жандар пакінуў сваю варту і пабег абараняць сілу зямной улады.

— Добры дзень, працавіты чалавеча,— сказаў ён, грукаючы дзвярыма і люта пазіраючы на Свэна.—Ты павінен зараз-жа заплаціць падатак уладзе! Я доўга чакаў і не чапаў цябе нават тады, калі ты быў брадзягаю. Чаканню майму прышоў канец. Я настолькі добры чалавек, што ахоўваў цябе і дабро тваё ад зладзеяў, недасыпаў начэй. Я сам не меў спакою, абы толькі зберагчы спакой грамадскі. І толькі тады, калі ты



— *Дай і царкве нашай дзесятую частку...*

аддасі мне дваццаць буханак, ты будзеш ўпэўнены, што справядлівасць жыць будзе і надалей.

Здзіўлены і збянтэжаны слухаў Свэн прамову жандара. Пакорліва падышоў ён да паліц і адлічыў жандару дваццаць свежых смачных буханак.

Яшчэ больш засумаваў Свэн. Плады ўпартай работы паволі знікалі і знікалі. Засталося толькі шэсцьдзесят буханак, і Свэн думаў аб тым, як ён пражыве зіму.

Знадворку даляцеў невыразны гоман, пачуліся шагі, і гэта занепакоіла Свэна.

— Няўжо яшчэ ашуканец які ідзе да мяне?—гнеўна прашаптаў ён. Усхапіўшыся з ложка, Свэн зірнуў на стол, дзе ляжала недаедзеная луста хлеба, і хутка пачаў хаваць шэсцьдзесят буханак пад абрусам.



*— Ты павінен зараз-жа заплаціць падатак уладзе!*

III.

Калі апошняя буханка знікла пад абрусам, на ганку з'явіўся нейкі чалавек і нахабна ўварваўся ў хату.

— А, гэта вы, Свэн?—крыкнуў незнаёмы, хапаючыся за грудзі, увешаныя ордэнамі ды медалямі. Гэта быў вайсковы афіцэр, які варочаўся з вайны.

У хаце пахла свежым смачным хлебам.

— Дзе твой хлеб?—раптам запытаў афіцэр, падышоўшы да яго.

— У мяне няма ніякага хлеба,—адказаў работнік зямлі.

— Не мані! Я ведаю—ёсць! Я чую нюхам! Якое ты маеш права абражаць афіцэра, ваенную сілу нашай бацькаўшчыны? Гэй, дзяншчык!—крыкнуў афіцэр.

У той-жа міг дзяншчык з'явіўся на парозе хаты, гатовы на ўсё.

І зразумеў тады Свэн сілу зброі. Ён задрыжэў і не ад страху, а ад злосці, што клекатала ў яго ў грудзях. Афіцэр стаяў нерухома і нюхаў пахучае паветра.

— Я хачу есці! Тут хлеб!

Дзяншчык сарваў абрус і ўбачыў пад ім буханкі.

— Дваццаць буханак за тое, што маніў!

І Свэн, уздыхнуўшы, дастаў дваццаць буханак і аддаў іх дзяншчыку. З вялікім бярэмем хлеба дзяншчык і афіцэр вышлі з хаты, нават не зачыніўшы дзвярэй.

Жах перад будучым, перад голадам і лютаю зімою апанаваў Свэна. Доўга хадзіў ён з кутка ў куток, разважаючы пра сваё суровае жыццё. Нарэшце спыніўся і... у цішыні раптам пачуўся тонкі звон жалезнага засоўца. Гэта Свэн закрыў хату.

IV.

Насгала ноч. Разышліся хмаркі. Зоры сыпаліся над Скандынаўскаю краінаю, а навакол кацілася слава пра свэнавы буханкі.

Даведаўся пра гэта кароль і неадкладна паслаў ад'ютанта па сваю частку. Ён не davяраў хабарнікам-воктам і лічыў, што толькі слугі яго вялікасці не ашукаюць свайго вялікага пана.

Ад'ютант выехаў на лёгкай, прыгожай каралеўскай калясцы, маючы на руках грамату ад караля.

Свэн ужо спаў на парванай коўдры, расхлістаны і спацелы ад цяжкіх сноў. Іншы раз ён у гарачцы раскідаў рукі ў бакі, курчыў ногі. Тады цела дрыжэла. Нядобрыя сны сніліся Свэну.

Раптам...

... Загрукала ў дзверы, і нахабны голас пачуўся знадворку:

— Імем караля—адчыніце!

Свэн спаў. І невядома, колькі часу стукаў-бы ад'ютант, калі-б не здагадаўся выстраліць угору з пісталета.

— Імем яго вялікасці, караля Усходняй Скандынавіі — адчыніце!

Свэн вытарашчыў вочы ў цемень, усхапіўся з ложка, пачуў ад'ютантаву пагрозу і памчаўся да дзвярэй. Як ураган уляцеў ад'ютант і, бразгаючы шпорамі, пачаў хадзіць з кута ў кут.

— Хто тут жыве, — падданы караля ці рэволюцыянер?

Свэн запаліў агонь і сеў адзявацца, каб у прыстойным выглядзе стаць перад каралеўскім слугою.

— Устань і пакланіся мне! — загадаў ад'ютант. — Я прадстаўнік караля, — найвышэйшай земнай улады і не дазволю нікому, пакуль я стаю, сядзець ці ляжаць!

— Я адзенуся, — папрасіў Свэн.

— Гэта залішне, бо не ты патрэбен, а штосьці іншае, любы селянін. — І ад'ютант спыніўся, дастаў грамату і яшчэ раз грозна зірнуў на Свэна, які стаяў неадзеты, чорны і валасаты пры жоўтым святле маленькай свечкі.

— Па загаду яго вялікасці, — пачаў чытаць грамату ад'ютант, — Свэн, які жыве ў Загор'і і Ўсходняй Скандынавіі, павінен заплаціць каралю падатак. Гэты падатак загадваю вылічыць майму ад'ютанту з разліку — адна трэцяя частка гадавога ўраджаю. Няхай будзе воля божая і яго вялікасці. Няхай квітнее наша бацькаўшчына.

Свэн слухаў, насупіўшыся, і амаль не разумеў нічога спрасонку. Ён думаў пра свае сто родных, мілых буханак хлеба.

— Я — абкрадзены, я памру... — шаптаў ён.

— Што ты кажаш? Навошта кароль бярэ падатак? О, ён — наш уладар! Ён-жа адзін кіруе дзяржаваю і царквою. Ён турбуецца за сялян, каб яны зранку да вечара працавалі як след! Яго вялікасць любіць народ: ахоўвае краіну ад рэволюцыі. Няма тае хвіліны, каб ён не ўспомніў пра вас, пра свае абавязкі...

— Красці, адбіраць, ашукваць... — варушыў губамі Свэн.

Ад'ютант нібы не чуў і нахабна гаварыў далей:

— Кароль літасцівы, добры! Калі ты не даеш хлеба, то можаш замяніць грашыма! Гэта — вялікае права народу. Такое права зацвердзіў наш мудры кароль.

Свэн маўчаў і звар'яцелымі вачыма пазіраў на ад'ютанта, што стаяў, як чорная здань. Буханкі хлеба спакойна ляжалі пад абрусам і не чулі цудоўнай ад'ютантавай прамовы.

— Трыццаць пяць буханак я павінен узяць каралю!

З сарака буханак асталося толькі пяць.



*— Дзе твой хлеб? — запытаў афіцэр.*

## V.

Тады Свэн упаў на калені, узняў рукі да неба і прakляў бога словамі, якіх не чула яшчэ Ўсходняя Скандынавія. Ён клікаў горы і лясы ў сведкі людскога злачынства, клікаў вялікую помсту на гультаёў, якія жывуць чужою працаю.

Пяць буханак ляжалі і слухалі свэнавы праклёны. Чакаючы сваёй смерці, Свэн вышаў на двор у цемень.

Раптам ён пачуў шэлест. На плот вылезла невыразная чорная цень і працягнула рукі да Свэна.

Але Свэн умомант апынуўся ў сваёй хаце, заставіў дзверы сталом, дошкамі і патушыў агонь. Сэрца моцна стукала ў грудзях, хацела вырвацца на двор, каб забіць грабежніка, які безумоўна прышоў па апошняе дабро.



*— Трыццаць пяць буханак я павінен узяць караля*

Цень падышла да дзвярэй, пацягнула іх і ўдарыла палкаю па дошцы.

— Хто там?—запытаў Свэн.

— Гэта—я! Дайце мне хлеба.

— Хто вы? Чаго вам трэба?

— Гэта—я! Дайце...

Але Свэн не даслухаў і злосна гукнуў на ўсю хату:

— Ідзіце ад мяне прэч!

— Адчыніце...—стагнала цень.

— Хто вы? Калі кулак—падавіцеся вашаю пазыкаю, калі поп ці жандар—павесцеся на першай галіне! Калі афіцэр, ад'ютант або кароль—няхай вас заб'е гром!

— Я—батрак... Я вандрую па дарогах, шукаючы работы. Я быў у кулака, ён падаў шклянку вады; я прасіў хлеба ў папа, ён адказаў: „бог дасць!" Жандар выгнаў мяне аж за сяло, як толькі я падышоў да яго. Афіцэр прапіваў свае буханкі ў карчме, і калі я ўвайшоў, ён даў мне такога чосу, што я ледзь вырабіўся адтуль. Ад'ютант-жа пагразіў турмою, і я ўцёк да вас. Накарміце мяне і дазвольце пераначаваць!

Тады Свэн адсунуў засовец і запрасіў яго ў хату.

Праз гадзіну яны абодва вышлі на двор. Яны ішлі і клікалі да сябе ўсіх пакрыўджаных і абяздоленых. І сабралася ў Свэна цэлае войска рабочых і беднаты. Тады Свэн смела рушыў з гэтым войскам супроць караля і ўсіх яго слуг.

## VI.

Праз некаторы час жандар, поп і кулак сядзелі ў турме і пазіралі з-за крат на вялікую гару многіх соцень буханак хлеба, каля якіх хадзіў вольны народ. Яны пазіралі на ўрачысты кангрэс народу і чулі, як зазвінелі плошчы воплескамі, калі старшынёю Вялікага Совета рабочых і сялян абралі Свэна—працоўнага сына Блакіту і Гор.

*Пераклад з украінскай мовы А. П.*

# ПАНТЭРА

*У № 2 нашага журнала былі надрукаваны малюнкі 28 звяроў. Па просьбе чытачоў пачынаем з гэтага № змяшчаць апавяданні і нарысы пра найбольш цікавых з гэтых звяроў.*

Пантэра—самая прыгожая кошка ў свеце. І разам з тым самая спрытная. Калі яна ідзе, мякка выгінаючы лапы, шыю, усё цела, то здаецца, што яна ні на што не абапіраецца, а плыве над зямлёй. Жоўтая скура яе з цёмнымі плямамі заўсёды служыла каштоўнай здабычай для паляўнічага. На Малайскіх астравах і ў Індыі сустракаецца яшчэ больш цікавая, але рэдкая—**чорная пантэра.**

Часта яшчэ мы сустракаем слова—**леапард.** Гэта таксама пантэра; а калі між імі і ёсць розніца, то яна такая, што вялікі знаўца жывёл Брэм кажа: „Можна леапарда і пантэру лічыць за розных жывёл, ці не рабіць паміж імі розніцы,—як каму падабаецца“.

Нарэшце, нам трапляецца яшчэ чуць і чытаць слова—**барс.** І гэта таксама пантэра, толькі тая, што водзіцца на Каўказе, а таксама ў Усурыйскім краі.

Усе гэтыя пантэры жывуць у розных частках свету, у розных умовах. Вядома, яны трохі адрозніваюцца адна ад другой, галоўным чынам колерам скуры: то цямнейшая, то святлейшая, то плямы большыя, то меншыя, то больш кружкоў, то больш кропак і г. д. Але асноўная пабудова цела і плямістасць застаецца заўсёды аднолькавая, і велічыня прыблізна аднолькавая—каля паўтара метра даўжыні цела і больш за метр даўжыні хвост.



Сям'я кошак мае да трыццаці відаў, куды ўваходзяць і леў і тыгр. Пантэры (леапарды, барсы) складаюць адзін з гэтых відаў.

Звычайна пантэры жывуць у Паўднёвай частцы Азіі і ў Афрыцы. Яны любяць зараснікі і скалы. Таму пантэр вельмі многа водзіцца ў Абісініі. Часамі яны шмат прыносяць шкоды.

Да аднаго абісінскага селяніна пантэра забралася на двор уночы праз трохметравую сцяну і напала на казу. На шум выбег гаспадар, стрэліў і прагнаў драпежніка. Але каза ўжо была нежывая. Гаспадар уцягнуў яе ў хату. Праз дзве гадзіны гаспадара зноў абудзіў нейкі шум. Аказваецца, гэта самая пантэра вярнулася па казу і залезла нават у хату. Зноў стрэліў гаспадар, але не трапіў у пантэру, і яна зноў уцякла. А праз некалькі дзён іх прышло ўжо тры штукі. Дзве пантэры хадзілі па сцяне, а трэцяя, відаць старая знаёмая, пачала лавіць курэй. У цемры цаляць вельмі трудна, таму і на гэты раз пантэры ўцяклі без ніякай шкоды для сябе. Але зноў прышлі ў госці ўжо на другую ноч. На гэты раз ужо ўдалося прастрэліць драпежніку спіну.

Ці нападаюць пантэры на людзей? Звычайна не: яны баяцца чалавека, як і кожны звер. Але, як гэта часта бывае і з іншымі звярамі, пантэры вельмі небяспечныя, калі іх параніць. Тады яны кідаюцца і на чалавека, і іх страшныя кіпцюры робяць жудасныя раны. Бываюць яшчэ выпадкі, калі яны нападаюць на дзяцей.

Ці можна пантэру зрабіць свойскай? Можна, галоўным чынам з маленства, але не кожную. Ёсць многа выпадкаў, калі пантэра жыла ў сям'і, як кошка, і дзеці гулялі з ёй, як хацелі. Але шмат разоў здаралася, што яна раптам і бяды наробіць. Адным словам, вельмі давяраць ёй нельга. Брэм доўгі час стараўся прыручыць адну пантэру, але нічога не мог зрабіць. Ніякім чынам нельга было прымусіць яе слухацца, пакуль не дадумаліся абліваць яе з насоса вадой. Пасля таго досыць было толькі паказаць насос, як яна сцішалася і рабілася спакойнай.

М.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ОКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
ВЫДАННЕ ...

ЦАНА 30 кап.



# ПРЫГОДА З ФАШЫСТАМІ

*Рысункі Н. МАЛЕВІЧА*




1. Пад гукі музыкі ішлі фашысты на парад.




2. Здагадлівыя піонеры таксама не драмалі.




3. — Што за ліха? Што сталася з трубамі?— дзьмуць аж задыхаюцца музыканты-фашысты.




4. — Ага гэта вы падстроілі такую штуку!— накінуліся яны на сваіх суседзяў.




5. Не прайшло і хвіліны, як уся каманда змяшалася ў кучу: у ход пайшлі кулакі і трубы...




6. А гэтым часам піонеры паспелі напісаць на плоце: „Няхай жыве 1-ае мая“.

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ | Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА | Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна | 25.000 экз. | Заказ № 345. | Уп. Галоўлітбела № Б 1167.